# Беларускі Звон

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ.

**Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:** Вільня, Біскупская вул. **12.** Рэдакцыя адчынена: **12—2** штодня апрача сьвяточных дзён.

Рукапісы павінны быць напісаны чытальна і толькі на адным баку паперы, з праўдзівым проьвішчам аўтора і адрэсам (для ведама Рэдакцыі). Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

**Цана кожнага нумару 30 м.** Падпіска на 3 месяцы каштуе 400 м. (з даст. да хаты). Цана абвестак: перад тэкстам 150 мк., сярод тэксту 200 мк. і на апошняй страніцы 70 мк. за радок пэтыту ў 1 шпальт.

Год I. Вільня. Пятніца, 23-га сьнежня 1921 г. № 24.


## Першыя ластаўкі.

Яшчэ да вясны шмат часу трэба перачакаць, куды больш, як два месяцы, а першыя ластаўкі новае палітычнае пары дзе-ня-дзе паказаліся.

Мы адтрымалі весткі з Ашмяншчыны і Сьвянцянскага павету, аб рэвізіі і арыштах, то ксяндза, калі ён адважна кажа, што беларус, то вучыцеля, то наагул таго, хто нічога дрэннага ня робіць, а адважна і шчыра прызнаецца да таго, чым ёсьць.

Сялянскія нашыя масы не заўсёды разумеюць сапраўдную прычыну гэткіх здарэньняў, хаця дзехто дагадаваецца, што прычына гэтая крыецца ў тым, што перад выбарамі павеяла, быццам лёгкім вясновым ветрыкам, вольнаю агітацыяю для вольных і немагчымасьцю гэтага для няроўных.

Рэч зусім ясная: беларуская народна-працоўная інтэлігэнцыя ў провінцыі ня можа пасыўна слухаць агітатарскіх гутарак за Сойм і спакойна пазіраць на тое, што навакола дзеецца. Выходзячы з гушчы самога народу, інтэлігэнцыя наша, ведама што, большы ўплыў мае на сялянскія масы, чымся панасыланыя з Галічыны, Пазнані і іншых процілежных „kresów“ польскія вураднікі, ці проста агітатары.

Каб гэты інтэлігэнцкі ўплыў на сялян спаралiжаваць, каб часам ня вытлумачыў хто свайму больш цёмнаму брату, што віленскі Сойм ня наш і ня нашымі справамі будзе ён займацца, дык робіцца тое, што даўно спрактыкована крыху іншымі гаспадарамі палажэньня ў нашым краі, якія знаюць на сваёй мове клясычнае „тащить и не пущать“.

На небясьпечны перадвыбарны час нямілыя ўладзе і ўплывовыя сярод масаў асобы выключаюцца з ліку вольных нашых грамадзян, трапляючы пад паліцэйскі нагляд, альбо пад варту.

Гісторыя паказала ўжо, што рабіць гэтак можна толькі да пэўнага часу, пакуль ня высьлізнуцца з рук лейцы, якімі цягнуць і ня пушчаюць.

Ці памогуць, аднак, старыя, збанкрутаваўшыя мэтоды пахіліць каго-нібудзь з народу не ў яго родны бок, а туды, дзе чакае яго пэрспэктыва быць грамадзянінам другода гатунку, як і ў „добрыя старыя часы“?

Хіба, што не!

Тут, у Віленшчыне, пакуль што, яшчэ Сярэдняя Літва (недзе-ж павінна быць і яе не-сярэдзіна!), а ці можна глядзець спакойна, як замёрла беларускае жыцьцё на так званых „kresach wschodnich“ Польскае Рэспублікі, там недзе каля лініі Кэрзона ды Рыскага міру.

Якою свабодаю і якою роўнасьцю з „роўнымі“ там беларусы абдараны можа й гаварыць ужо ня трэба.

І гэтае заморваньне нацыянальнага беларускага жыцьця на „крэсах“ зьяўляецца лепшым 'відавочным агітацыйным спосабам у нашых руках і найлепей даводзіць усяму беларускаму насяленьню, яшчэ, пакуль што, фармальна недалучанай да Польшчы Сярэдняй Літвы, як быць і чаго спадзявацца ў выпадку далучэньня.

Мы пэўны, што ніводзін сьвядомы беларус не падпішацца пад жаданьнем самому сабе і ўсім братом сваім няволі і нацыянальнага ўціску і не падасьць голасу пры выбарах у Сойм, памятаючы, што Нацыянальны Беларускі Камітэт ад выбараў катэгорычна адмовіўся, бо нам няма за каго свае галасы падаваць.

Урадуючы над намі, паны палажэньня нас ня пытаюцца, як і што рабіць, ня хочуць ведаць, ці закрываюць вочы на тое, што мы хочам і маем права жыць сваім уласным нацыянальным жыцьцём і не адмовімся ад гэтага жыцьця нават пад страхам гвалту, пад якім-бы братэрскім сосам гвалт гэты ні падносіўся.

Мы павінны быць дружнымі і памятаць, што палітычны гвалт над паасобнымі сябрамі нашае вялізнае нацыянальнае беларускае дружыны ёсьць гвалтам над цэлаю нацыяй, над усім народам.

Быць можа, ў лішні раз яшчэ хацелася-б верыць, што першыя ластаўкі, пазбаўленыя волі, ня прынясуць нам вясны... прасьледаваньняў усяго беларускага ды гвалтоўнай спробы ліквідаваньня ўсіх нашых нацыянальна-культурных здабыткаў —апошніх пазыцыяў у няроўнай барацьбе за свае правы, за свае ідэалы.

Грамадзяне, спаўняйце сваю павіннасьць, запісуйцеся ў „Т-ва Беларускае Школы“!

## Палітычныя хітруны.

Нашыя тутэйшыя, так званыя, „краёўцы“, думкі якіх выяўляе „Газэта Краёва“, у працягу апошняга году вялі заўзятае змаганьне з эндэцыяй, г. зн. з польскімі чорнасоценцамі, па пытаньню: як быць з Віленшчынай і Горадзеншчынай? Эндэцыя ясна і выразна стаяла і стаіць за „wcielene“, г. зн., за далучэньне „спрэчных“ тэрыторыяў да Польшчы, мінаючы протэсты Эўропы і Літвы, ігнoруючы голас тутэйшага няпольскага насяленьня, бароняча свае панска-ксяндзоўска-польскія інтарэсы.

«Краёўцы» праз увесь час змагаліся, як нам здавалася, з такімі агіднымі тэндэнцыямі эндэцыі і, як быццам, шукалі згоды з беларусамі, ліцьвінамі і жыдамі пры вырашэньні „краёвых“ справаў. Яны не адзін раз заяўлялі і ў сваёй газэце і на розных сходах, што Віленшчына разам з Ковеншчынай павінны увайсьці ў склад Літоўскай дзяржавы, а гэтая апошняя павінна быць у фэдэрацыі з Польшчай. Яны, як ізноў нам здавалася, моцна сталі за „ўставадаўчы“ Сойм у Вільні, які ўрэгулюе спрэчную віленскую справу ў кірунку: Віленскі і Ковенскі кантон складаюць адзіную Літву, а гэтая апошняя ўваходзіць у саюз (фэдэрацыю) з Польшчай.

Сказаць праўду—мы чамусьці ня верылі ў шчырасьць заяваў польскіх «краёўцаў». Нам здавалася, што ў гэтых „краёўскіх“ заявах ёсьць нешта недагаворанае. Мы ўзялі на сябе сьмеласьць выказаць думку, што ў пытаньні аб Віленшчыне паміж эндэцыяй і «краёўцамі» ёсьць розьніца толькі ў тым, што абедзьве гэтыя польскія групы імкнуцца да „wcielenia“ рознымі спосабамі. І адны і другія хочуць гэтага ўсёй душой, толькі як гэта зрабіць? Вось тут-то і разыходзяцца эндэкі з „краёўцамі“. Эндэкі крычаць: далучыць і скончана.

„Краёўцы“...

Каб не падумалі, што мы робім абгавор «краёўцаў», няхай яны самі гавораць за сябе.

Вось што піша „**Газэта Краёва**“ ў № 382, адказваючы на закіды Віленскай «Rzeczpospolitej»:

„Rzeczpospolita“ жадае далучэньня (Віленшчыны *Рэд.*) да Польшчы, як быццам хто—небудзь з палякоў хацеў-бы інакшага, як быццам гэтае «wcielene» ня было і найвялікшай марай усіх сыноў (? *Рэд.*) гэтае зямлі (Віленшчыны *Рэд.*). Аднак, ёсьць розныя дарогі, якія праводзяць да „wcielenia“, і няма нічога дзіўнага, што віленскія згрупаваньні (разумеецца—толькі польскія — *Рэд.*) імкнуцца да гэтага «wcielenia» рознымі дарогамі“.

Мы вельмі ўдзячны „Газэце Краёвай“, што яна сама пацьвярдзіла нашыя думкі аб «краёўцах». Цяпер зусім ясна, што і эндэкі і польскія «краёўцы» ідуць да „wcielenia“ дружна і ў згодзе, але толькі рознымі дарогамі.

Такім чынам, у пытаньні аб Віленшчыне эндэцыя і „краёўцы“ ў поўным контакце. І тыя й гэтыя—за «wcielene». А ідуць—„рознымі дарогамі“.

Ну, разумеецца, як можна п. Хамінскаму ісьці з п. Обстам „пад-ручку“ так, каб усе бачылі. Яны—для вока—стараюцца хадзіць рознымі дарогамі, але йдуць да аднаго й таго самага месца.

П. Обст ідзе адкрыта, не хаваючыся, прэ усімі фібрамі свае эндэцкай пароды і прыроды, а п. Хамінскі...?

Ен, боязна аглядаючыся, як-бы крадучыся, сьпяшаецца туды-жа, бо такая-ж у яго прырода і парода, як і ў п. Обста...

І вось пытаньне:

Нашто патрэбны былі ўсялякія палітычныя выкрутасы п. п. „краёўцаў“ і баламучаньне лёгкаверных паадзінокіх беларусоў, жыдоў і ліцьвіноў няшчырымі размовамі аб Ліцьве, аб кантонах, а нарэшце, аб краёвасьці.

Сказалі-б адразу: ідзём да Варшавы разам з эндэцыяй, але толькі рознымі дарогамі. І было-б усё добра. А то цяпер вас, паночкі. мы змушаны атэставаць, як палітычных хітруноў, з каторымі гаварыць па шчырасьці няма аб чым.

**В.**

**Суліма.**

## Ад безьзямельнага батрацтва да дзяржаўнай незалежнасьці.

——

*Зялёны Інтэрнацыянал.*

V.

Перш чымся перайсьці да агляду і аналізу спэцыфічных асаблівасьцяў Беларусі, да ацэнкі яе, як кажуць, нацыянальнае гатоўкі,—яе, значыцца, магчымасьцяў і пэрспэктываў удачнае барацьбы і зьдзейсьненьня тых мэтаў, якія ўжо са ўсею выразнасьцю паўсталі й крышталізаваліся ў разуменьні беларускае інтэлігэнцыі, як нацыянальна-палітычны ідэал, мы павінны зрабіць дзьве увагі да таго, што казалі раней.

1. Гаворачы аб адносінах места да вёскі й прамыслова - імпэрыялістычнага краю да краю аграрнага, мы ўжывалі слова «ненажора». Гэтае слова не саўсім акуратна перадае той сэнс, які, па аналёгіі з адносінамі ў біолёгічным сьвеце, мы хочам укласьці ў наша разуменьне, якое гэтак блізка зачапляе інтарэсы аграрнага краю.

Разуменьне „жываеда“ — зусім выразнае ў біолёгіі.

Схэматычна гэта можна паказаць гэтак расьліна корміцца мінэральным царствам, пертвараючы няжывую прыроду ў прымітыўныя формы жывое прыроды; жывёла корміцца гэтымі гатовымі ўжо ў расьлінным царсьцьве матар'яламі, ашчаджаючы сваю энэргію і скіроўваючы яе на вышэйшыя формы жыцьцёвай актыўнасьці—маючы ўжо недаступны для расьлінаў рух; «жываеды» (ненажоры) павінны быць выдзеленымі ў асобную «вышэйшую“ біолёгічную групу, бо кормяцца жывымі жывёлінамі, усвойваючы гатовыя ў апошніх запасы вышэйшай бялковай мешаніны, якія запасы забясьпечваюць ім кармленьне яшчэ больш высокіх формаў актыўнасьці...

Прамысловы імпэрыялізм гэтак вось корміцца аграрнымі краямі, устанаўляючы да іх грахоўна-біолёгічныя адносіны й запамінаючы аб тым, што ў чалавечым сьвеце ёсьць няўхільныя законы вышэйшыя—законы грамадзкія.

2. Другая ўвага датычыць самае сутнасьці выбранае намі тэмы.

Наколькі важна, сучасна і, як кажуць, цэнтральна цяпер закранутая намі тэма, паказвае газэтная вестка аб тым,

што ў пачатку будучага гаду ў адным з блізкіх нам па крыві й па духу краёў, у яго сталіцы — Празе проектуецца міжнародны зьезд прадстаўнікоў земляробскіх арганізацыяў. На зьезьдзе гэтым, ведама-ж, першую ролю будуць граць тыпова-аграрныя краі. Намячаецца стварэньне нябывалай яшчэ арганізацыі—сапраўднага Аграрнага Інтэрнацыяналу, якая аб'яднае ўсе земляробскія арганізацыі Эўропы. Вось якія весткі падаў аб гэтым проекце сэкрэтар арганізацыйнага бюра зьезду інж. Фідлер.

Па думцы Фідлера бяз шырокай міжнароднай арганізацыі земляробскага руху немагчыма эканамічная консолідацыя Эўропы, немагчыма й яе палітычнае замірэньне. Эўропа цяпер хворая і хвароба гэта ня толькі ад голаду, бо карміўшы Эўропу, земляроб морыць месты і паміраe сам. Прычына—глыбей і крыецца ў тым, што земляроб дасюль не зьяўляецца рашаючым фактарам у пытаньнях для яго найважнейшых і найжыцьцёвейшых дзеля ўсяго краю. Яго голас не адпавядаў важнасьці яго ролі ў дзяржаўна-эканамічным жыцьці ўсяе Эўропы. Земляроб павінен завяяваць сабе ўсе правы, адпаведныя важнасьці яго ролі ў агульным жыцьці краю й не пакарацца, як дасюль, пасыўна дыктатуры прамысловага места. Земляробы, кажа Фідлер, павінны аб'яднацца, каб завяяваць сабе гэткі ўплыў на законадаўства й кіраваньне краем, які адпавядае іх лічбенасьці ў ім. Сярод сяброў арганізацыйнага бюра ёсьць і яшчэ больш крайнія галасы, што гавораць аб дыктатуры земляробскае клясы ў краі і ў Эўропе. Трэба сказаць, што калі права на дыктатуру выводзіць з лічбеннае перавагі тае, ці іншае клясы ў краі, дык кляса земляробаў, што мае вялізную лічбенную перавагу амаль што ўва ўсіх краёх Эуропы, ведама што першы кандыдат на гэту дзяржаўную рэгалію вынятковае ўлады. Але нас, ведама-ж, тутака цікавіць ня новая спроба падмяніць здаровы прынцып дэмократычнае арганізацыі дзяржавы і ўлады грахоўным эрзацам дыктатуры; для нас над'звычайна важна здаровая тэндэнцыя земляроба, што ашукаўся ў сваёй веры да розуму й сумленнасьці манапольна карыстаўшага з улады гораду,—устанавіць новы парадак, пры якім немагчыма было-б злаўжываньне гэтае ўлады збоку дыктатара меставога прамыслоўца. Вёска, а значыць і аграрны край хоча ўзяць удзел ува ўладзе, устанавіць над ёю заўсёдны актыўны кантроль паралiжаваць самога жываедапараліжатара, які, паразытуючы на ёй, сам прыйшоў і яе прывёў да вялізьнейшага крызысу і краху, які ведае гісторыя.

Як кожнаму ясна, й ініцыятыва й галоўныя дзеячы практычнага зьдзейсьненьня здаровае й жыцьцёва-патрэбнае для ўсяе Эўропы, быць можа, для ўсяе сусьветнай гаспадаркі, ідэі—належаць да славянскіх краёў. Бюро складаецца, галоўным чынам, з велікарускіх-эміграцкіх, украінскіх, чэскіх, польскіх, баўгарскіх земляробаў. Беларусам, канешна, трэба дастаць непасрэдную акуратную інформацыю аб проектаваным зьезьдзе і, ў кожным выпадку, пачуўшы важнасьць справы, яе шырокі сусьветны масштаб і пэрспэктывы для нашага аграрнага краю ўзаемнай падмогі ў барацьбе за ідэалы вызваленьня, наладзіць дзейны контакт з арганізатарамі зараз-жа. У кожным выпадку, нельга дапушчаць, каб ад імя земляроба гаварылі, як гэта робіцца найчасьцей у нас, земляўласьнікі, а ад імя Беларусі яе ворагі — паразыты-параліжатары.

Пасьля зьезду, ведама-ж, як я казаў, і спроектавана і няўхільнае, як адно з заданьняў яго й да таго-ж галоўнае,—гэта стварэньне буйнае міжнароднае, заўсёды чыннае, арганізацыі земляробаў усіх краёў, пакуль што, толькі Эўропы.

Новы, нязвычайны па гуку і для нас беларусоў, лёзунг: „земляробы ўсіх краёў злучайцеся!“

На эўропэўскую, а мо' й на сусьветную сцэну выступае сапраўдны Трэйці Інтэрнацыянал і гэтае зьявішча вызначыць колёсальнае важнасьці і перш за ўсё для нас, аграрных славян і беларусаў у тым ліку, зьмену ў агульным палітыка-эканамічным жыцьці сьвету. Дасюль дзейным, рашаючым фактарам палітыкі й эканомікі сьвету быў інтэрнацыянал гандлёва-прамысловага капіталу. Яго бясьсільны да нядаўнага часу цень—інтэрнацыянал прамысловага пролетарыяту—толькі ў апошні час стаў матэрыялізавацца й заяўляць пратэнсію на ўладу,—з вялікім запросам—у форме настолькі-ж нігілістычнай, у адносінах да свайго эканамічнага партнэра-антагоністага, дыктатуры.

Ёсьць зусім рэальная дзеля аграрных краёў і для земляроба ў кожным краі наагул небясьпека, што, адмовіўшыся ўзаемна ад узаемнага нігілізму, ўзаемна папусьціўшыся адзін аднаму, „дыктатары“ пакінуць за сваім саюзам у індустрыяльным месьце-паразыце ўсю сілу дыктатуры, якая ад гэтага іх замірэньня толькі нязьмерна падрасьце. І тады—бяда аграрным краём, бяда земляробам, калі яны не проціпаставяць гэтай арганізаванай, магутнай і варожай ім сіле ўласнае аб'яднаньне, азброенае, як крайнім спосабам барацьбы, бічом голаду.

Трэйці—зялёны інтэрнацыянал, даўшы да рэлігійна-гаспадарчае Тройцы аснаўныя бажэсьцвенна-творчыя стыхіі жывое Зямлі, створыць ня толькі эканамічнае здароўе й раўнавагу жыцьця яе, але, б. м., й адбудуе ўсю яе рэлігійную цэласьць,—аб'яднае ўвесь чалавечы сьвет у шчырую, жывую й рэальную еднасьць.

Як помніць чытач, усім, што раней гаварылася, мы стараліся паказаць, што аснаўны, першародны грэх эканамічнага і палітычнага разьвіцьця сусьветнага цэлага,—прычына ўсіх крызысаў і крахаў,—крыецца ў грахоўнай, тоячай у сабе забойства, дыктатуры індустрыяльна гарадзкога краю над краем аграрным, дыктатуры, што сапраўды-ж з рэлігійным шаленствам і гаспадарчаю сьлепатою адкідае грунтоўную ў чалавечым сьвеце норму роўнасьці і дагавору. Кожнаму робіцца ясным, што аздараўленьне гэтых грунтоўных адносін—аднаўленьне поўнаты самастойнасьці аграрнага краю, як роўнапраўнага дагаворнага суб'екта, са ўсімі гарантыямі проці адраджэньня адносін жываеда да ахвяры, ў самым найглыбейшым гаспадарча-рэлігійным карані зьнішчыць гэту грунтоўную прычыну—скажу проста—таго актуальнага, сучаснага аспэкта сусьветнае злыбяды, ад якое мы, наш сучасны сьвет пакутуем.

І калі зямля і прырода, папіраная ў асобе аграрных краёў прамысловым паразытам-параліжатарам, адтрымае ў асобе свайго прадстаўніцтва—земляроба ўсю поўнату удзелу ў рашэньні ўсіх сусьветных пытаньняў, адтрымае, як рэальны магутны фактар, рэальную ўладу ў сьвеце, дык проста не марай ідэалістага, а задачаю практычнага палітыка аграрнага краю будзе зьдзейсьненьне сапраўднае новае эры ў сусьветнай гісторыі, якае знайдзе гэткія сынтэзы рэлігіі, культуры й цывілізацыі,—братэрства, волі й роўнасьці, аб якіх мы, пакуль што, толькі маглі марыць.

І кожнаму ясна, што гэткая роля адраджэньня будзе належаць аграрнаму краю, паміж іншым, і нам—беларусам.

# Маленькі фэльетон.

## Мае проекты.

Калі зьвіхнецца з толку мая натура' або калі тыя, з кім я цяпер ахвярна (разумеецца, толькі не Ахвярнай вуліцы) працую дзеля лепшае будучыны свайго роднага, беднага й няшчаснага народу, пачнуць лічыць мяне за адшчапенца, вырадка, палітычнага шулера, ці яшчэ якога-небудзь мастака ў гэтым родзе, тады я мяркую сабе гэтак:

Усё роўна вушэй я ня спушчу, вачэй не заплюшчу, ў жоўты будынак не ўцяку, а пакажу я ім, гэтым ганарыстым, заслужаным беларусам, што жартаваць ня люблю, хоць уваскрашу, быць-можа, самыя дапатопныя часы, але-ж пакажу сябе.

Выбяру сабе ўдачны момэнт ды мне аднаму толькі вядомым парадкам склічу... беларускі зьезд. Сымпатычны, дэмократычны, эгоістычны, дэспотычны і гармонічны зьезд. Гэткі зьезд, што стане ён пасьля архэолёгічным.

Дзеля таго, каб толькі я быў зусім вольны на гэтым зьезьдзе, выбяру для яго такі горад, які яшчэ нікому не належыць і за які нехта спрачаецца.

Каб праціўнікі мае ня ўсунулі й носа ў справы майго зьезду, пастараюся прыставіць да кожных дзьвярэй будынку, дзе будзе зьезд, найменш культурных людзей, якіх ахрышчу проста „тэхнічным пэрсоналем“.

Гэта тады, калі дэлегаты мае пачнуць зьбірацца ў залю пасяджэньняў.

А перад тым, як высесьці ім з цягніка на вакзале, пастаўлю й там адпаведны тэхнічны пэрсональ, каб вёў іх куды трэба. Увечары зраблю для дэлегатаў сьвята-ну, хаця-б у памяць аб якім-небудзь паўстаньні, як на сягоняшні дзень, напр. слуцкім. І там ужо, як мае быць падрыхтую ўсіх да самае зьездаўскае работы.

Не абміну прыпомніць усім, што зьезд на тое й зьезд, каб зьезьдзіць каму трэба й па шыі.

Калі ўсё нарыхтуецца, як мае быць, тады пачну зьезд, г. зн. пасяджэньне. А на зьезьдзе, каб там сьвет гарэў, я сам буду старшынёю. Дый пачну-ж тады гаварыць, сколькі ўлезе, сколькі сілы будзе, аж заля задрыжыць. Дзеля большага эфэкту падпушчу і ў бок ад маіх шчырых думак пару словаў. Гэта патрэбна, бо паднімае настрой.

Калі спрабуе ўлезьці на зьезд, які-небудзь духоўнік, напрыклад ксёндз, дык я хоць і хрысьціянскай веры, а не пастыдаюся клікнуць аднаго з няпічаных малайцоў майго тэхнічнага пэрсоналю: „Гэй, Канапель“...

І вывядуць ксяндза, як п'янага з карчмы, бо не магу дапусьціцца, каб гаварыў ён на маім зьезьдзе ня тое, што гавару я, ня тое, што мне трэба. Вывядуць і хай сабе дзякуе Богу, што сутану носіць, а то й бакі маглі-б быць палатанымі.

А ўжо калі пасьмее падысьці да будынку зьезду хто-нібудзь з сяброў Бе-

# Маршлют.

Гэта ня было яго праўдзівым прозьвішчам. Празывалі гэтак небагатага селяніна аднае досіць вялікае вёскі, які сапраўды зваўся Сьцяпан Казун, меў каля чатырох дужых, маладых сыноў і мог узорна вясьці з гэткай сілаю сваю гаспадарку, але-ж любіў ён страшэнна гарэлку і праз яе гінуў.

Што значыла слова „маршлют“, якім празвалі Сьцяпана, я й цяпер ня ведаю дый ведаў гэта мусі толькі той, хто гэтае слова выдумаў. Аб Маршлюце хадзілі розныя дзейкі пра здарэньні, якія траплялiся з ім тады, калі ён пачынаў піць, махнуўшы на ўсё рукою.

Рэч у тым, што піў Маршлют ня кожны дзень, а неяк часінамі, калі на яго накідзь нейкая, находзіла. Трапляючы ў мястэчка ў гандлёвыя дні, Маршлют не выяжджаў з яго іншы раз тыдняў два, пакуль не прапіваў усіх, якія меў грошай. Тады конь яго, сам ведаючы дарогу да хаты, цягнуў соннага Маршлюта па шырокім гасьцінцы на пустым возіку, а іншы раз завозіў яго ў падарожныя вёскі, дзе знаёмыя людзі давалі Маршлюту чарачку-другую пахмяліцца і пры гэтым чамусьці лічылі кожны раз за патрэбнае параіць Сьцяпану ня піць гэтак.

Маршлют быў бойкі розумам і востры на язык мужчына. Высокі, прыгожы тварам, ён меў звонкі прыемны голас і, гаворачы самыя сьмешныя рэчы, заўсёды трымаўся зусім роўна й спакойна. Родны брат яго Трахім быў добрым музыкаю і толькі пад старасьць, граючы на скрыпцы, адбіваў моцна такту абедзьвюма нагамі, каб выходзіла ў яго кадрыля, альбо полька раўней. Трахім ня любіў гарэлкі гэтак, як Сьцяпан і ніякага лішняга прозьвішча ніхто яму ня даў.

Аднаго разу Сьцяпанаў конь завёз яго зусім не ў падарожную вёску, ў бок ад гасьцінца, што вёў з мястэчка да роднай Сьцяпанавай вёскі.

Калі адна знаёмая гаспадыня, пачаставаўшы Маршлюта чаркаю, настоенай на нейкіх карэньнях, гарэлкі, пачала ўгавараваць яго, каб гэтак ня піў, дык Маршлют зусім спакойна адказаў:

— Але, саколачка, праўду кажаш. Хоць яно бяда невялікая, што я, вось, дзесяты дзень ужо, як з хаты, бо сыны мае — малайцы; яны гаспадаркі ня збэсьцяць. Добра толькі, што коніка майго па дарозе воўк не распрануў.

На Маршлютовай мове гэта значыла: ня злупіў скуры.

— Э, лепей вось, каб цябе самога хто калі-небудзь распрануў, — сказала гаспадыня засьмяяўшыся.

— Ну, гэта ты мне анэгды ўжо казала,—паранейшаму спакойна сказаў Маршлют, — вось, ці ня маеш ты яшчэ чарачкі?

Сьцяпан быў адважны й жартаўлівы ня толькі з простымі кабетамі й таварышамі сялянамі, а іншы раз дзівіў усіх сваею адвагаю ў абхаджэньні навет і з начальствам.

Местачковыя жыды вельмі ўжо рады былі, як запіваў Маршлют. Яны зусім дарэмна карысталіся канём яго, каб навазіць вады і дроў да лазьні на цэлы тыдзень.

Аднаго разу, скарыстаўшы гэтак Маршлютовага каня, жыды закінулі недзе вожжы й вотрубі, што былі зьняты з воза. Калі агледзеўся Маршлют, што ня ўсё на яго возе ў парадку, дык проста пайшоў, разам з канём пад жыдоўскую школу (гэтак у нас сынагога завецца), калі жыды там разам з рабінам маліліся.

Сьцяпан пёрся з канём проста ў школу й крычаў:

— А дзе мае вожжы й вотрубі?

Жыды нічога не маглі парадзіць. Справа дайшла аж да рабіна, які загадаў жыдом знайсьці і аддаць Маршлюту яго вожжы й вотрубі.

Яшчэ цікавейшае здарэньне было з Маршлютом у князявым садку.

Зараз-жа па выезьдзе з мястэчка, ў якім часамі прападаў Маршлют, стаялі палацы князя Чацьвяртынскага. Брама каля палацаў чамусьці была адчынена і Маршлютоў конь завёз свайго п'янага гаспадара пад самы палац у садок ды якраз у раскошныя розных гатункаў кветкі. За кароткую летнюю ноч Маршлютоў конь, убіўшыся з возам у кветкі, дашчэнту здратаваў іх і нараніцы гароднік затрымаў каня за гэтую шкоду.

Сьцяпан і гаварыць не хацеў з гароднікам, а дамагаўся пабачыць самога дворнага камісара (гэтак у нас звалі таго, хто кіраваў князёўскай гаспадаркаю).

Камісар сказаў Сьцяпану, што падасьць яго ў суд, калі не заплаціць за зьнішчаныя кветкі.

— А, паночак мой! — спакойна заявіў Маршлют,—за гэткае глупства, ды каб я грошы плаціў. Барані Божа! Забірайце лепш каня з возам, а я пайду сабе да хаты пехатою, бо яшчэ-ж аднаго каня маю. Той дык наўрад, ці завязе мяне калі ў князявы кветкі.

І, сказаўшы гэта, Сьцяпан не на жарт скіраваўся дадому ды пайшоў сабе гасьцінцам.

Камісар пачакаў крыху, ці ня вернецца Маршлют па каня з возам, а пасьля загадаў дворным парабком даганіць Сьцяпана і аддаць яму каня. Маршлюта нагнілі аж за тры вярсты ад мястэчка, бо на хаду ён быў нязгоршы.

Як ні запіваў Маршлют, а грамадзкія павіннасьці свае усё-ж такі спаўняў, ды толькі напалову неяк, гэтак цікава, што аж людзі дзівіліся, які ён хітры.

У вёсцы, дзе жыў Сьцяпан, была школа. Была і цэрква. Але сьвяшчэньніка свайго ня было і трэ' было сялянам чаргою прывозіць яго з суседняга сяла за вярстоў дзесяць.

Калі дайшла чарга да Маршлюта прывезьці ў школу бацюшку, дык ён і ня ўпіраўся зусім, а толькі сказаў сялянам:

— Вось дурныя! Што гэта за мода нашымі худымі коньмі папа да школкі вазіць. Ён-жа свае коні, вун якія, мае. Хай сабе сам і прыяжджае. Я дык паеду, але больш ён напэўна на вазы нашыя сядаць, не захоча.

Усе задумаліся, бо не маглі згадаць, якую гэта штуку Маршлют выверне. А што выверне, дык напэўна!

Было гэта ўвосень. Сьцяпан вазіў на поле гной ды проста на тым самым возе, навет не паслаўшы саломаю, а паклаўшы дошчачку ўпоперак воза, паехаў да сяла па бацюшку.

ларускага Камітэту таўсты ды высокі, дык мой тэхнічны пэрсональ сам ведае, як яго панізіць ды патаньчыць.

Гаварыць на зьезьдзе будзе мець права толькі той, каму я пазволю, а, барані Бог, які-небудзь малады студэнт беларус выткнецца з прамоваю, абсаджу, як школьніка і ўжо больш «бывай здароў, брат», а нізашто не адтрымае слова. Калі-ж тры-чатыры студэнты на зьезд прабяруцца, дык аднаго абавязкова тэхнічны пэрсональ так пачастуе, што рэшта яго таварышоў адразу свой імпат аратарскі страціць.

Калі й знойдзецца гэткі дзівак у прэзыдыуме майго зьезду, што дэманстрацыйна выступіць проці кардынальнае, патрэбнае мне рэзалюцыі, а пасьля й залю пасяджэньня пакіне, дык толькі пастараюся, каб з гонарам яго вывялі за апошнія дзьверы ды не адластажылі часам.

Калі знойдзецца хто з маіх верных людзей, што дагадаецца паставіць перад зьездам пытаньне, чаму гэта таго, ці гэтага на зьезьдзе вывялі, або пабілі, як напр. студэнта, дык я проста ўсім вытлумачу:

— Выбачайце, сіньоры! Гэта глупства. Усяго толькі некаторая, як кажа пан Эс, а можа й Эр, някультурнасьць гэта можа быць аднесена толькі да тэхнічнага пэрсоналю, пра чым-жа тут наш сьветлы, сымпатычны, дэмократычны, эгоістычны, тэрорыстычны й археолёгічны зьезд?

А так і скажу—археолёгічны. Бо — па зьезьдзе, зьезд мне да пэўнага часу будзе непатрэбен і можа сабе праваліцца пад землю, альбо ехаць, адкуль прыехаў. Хай яшчэ падзякуе, што грошы на дарогу дам. Пехатой разышоўся-б. Невялікі пан.

Гэтак я проектую. І здаецца проект акуратны, нічога не прапушчана. Хаця пакуль гэта мне спатрэбіцца, дык яшчэ падвучуся.

А думаеце, што гэта я так сабе з галавы выдумаў, ня вучыўшыся. Ой, не! Павучыўся, браткі мае, даволі, аж нудзіла мяне.

А вось толькі дзе вучыўся не скажу, гэта сакрэт, хоць зарэжце мяне, ня выдам яго нікому, каб не перахапілі ды не перахітрылі мяне.

Звончык.



# З ПРЭСЫ.

## „На Шыпке все спокойно“.

«Glos Litwy» (№ 74 за 20. XII. 1921 г.) проста падходзіць да сучасных навін— сьродковалітоўскіх палітычных „зьменаў“ і ў перадавым артыкуле, найбольш гаворачы аб новым прэсавым дэкрэце, гэтак развамае над балючымі пытаньнямі дня:

„Пасьля доўгага й цяжкага полагу сярэднялітоўскія ўлады ўдастоілі нас нарэшце дэкрэтам аб свабодзе прэсы. Доўга не маглі яны рашыцца на тое, каб пакінуць (часова толькі, заспакойваем п. п. Сенкевічаў і Макржэцкіх) прыстараўскі азіятызм і апрануцца ў эўропэйскі смокінг, але-ж перацягваць струны далей нельга было: круціцца заўсёды па Вільні пап. Шардыні, то да Коўна падскочыць, то да Варшавы, дый зноў да Коўна і зноў да Варшавы, круцяцца запрошаныя, ведама што, варшаўскім урадам, а таму авансам настроеныя на карысьць Польшчы й яе сярэднялітоўскіх уладаў, але так, ці гэтак людзі, непазбаўленыя пэўных паглядаў сапраўдных жыхароў констытуцыйных краёў, розныя корэспондэнты часопісяў ангельскіх, амэрыканскіх, галяндзкіх і ведама-ж францускіх, дык неяк было перад імі з сваім азіятызмам нявыразна парадаваць, а таму нарэшце мы дачакаліся слаўнага дэкрэту.

Кажуць: лепей позна, як ніколі, а мы сказалі-б: лепей свабода прэсы на 12 дзён, як ніколі. І сапраўды гэты дэкрэт de facto гэтулькі ўсяго моцным будзе. Перш за ўсё, што грозіць: „набірае моцы з 10 сьнежня 1921 году“, фактычна 12 сьнежня яшчэ мы адтрымалі концэсію на газэту на аснове ранейшага дэкрэту не аб свабодзе, з захаваньнем усіх, жаданых тым дэкрэтам фармальнасьцяў. Трудна, нарэшце, жадаць, каб новы дэкрэт набраў моцы з 10 сьнежня, калі ён падаецца да публічнага ведама 18 сьнежня, а гэта выпадае якраз на нядзелю, вось-жа, хто пасьля прачытаньня яго, захоча яго вакарыстаць і адразу, значыцца, ў панядзелак заявіць аб замеры выдаваць новую часопісь, будзе магчы пачаць выдавецтва толькі пасьля пяцёх дэкрэтных дзён, або 24 сьнежня. Ня гэтак хутка, паночку, бо 24 сьнежня друкаршчыкі не працуюць, 25—нядзеля, 26—другі дзень Каляд, 27—як быццам de jure можна прыступіць да працы, але de facto мы радзілі-б не прабаваць, дык, гэткім чынам, 28 сьнежня новая часопісь выйшла-б у сьвет. Калі ласка, паліцэце: ад 28 сьнежня да 8 студня, або да дня выбараў, маем дзён 12.

Вось-жа, і п. Шардыні можа (пытаньне толькі, ці ёсьць?) быць задаволены, бо мае ў руках дэкрэт аб свабодзе прэсы, якога дамагаўся. Свабоды гэтае ніякая опозыцыя не патрапіць выкарыстаць, як трэба, ня маючы ў сваім распараджэньні а ні 2 тыдняў, а таму й пан Прыстар можа спаць спакойна. Сапраўды сярэднялітоўскае вырашэньне справы.

Гэтак вось натуральнасьць свабодаў перайшла ўсялякія, найсьмялейшыя навет надзеі: гаварылася аб свабодзе на дзён 35 і тыя, хто мае ўладу ў нас шчыра былі перапалоханы з прычыны даўгаватага сроку, чуючы, што праз наш зьменны клімат, а таксама й дзеля настрояў, ці урадовых гумараў трудна будзе вытрываць гэтулькі часу «оргію» вольнага слова („ня вытрываю, мамачка, піхну жыдзюка“, казаў некалі наш гімназійны таварыш, вялікі шулер, калі яму маці казала трымацца на вуліцы прыстойна), а адтрымалі мы толькі 12 дзён, якія, пэўна-ж, найрэакцыйнейшыя ўрады, якія толькі могуць быць, а да гэткіх ведама-ж мусім залічыць улады п. п. Сенкевічаў і Обстаў, вытрываць патрапяць, а па 12 днёх ведама што—гуляй душа дэкрэтам № 80 у руках, нарэшце і ў працягу гэтых невясёлых дзён трымаецца пуга на журналістых у постаці магчымага пракурорскага арышту на нумары газэты і судовай справы.

Не ўдаемся ў аналіз новага прэсавага дэкрэту, наколькі ён сапраўды забясьпечвае свабоду прэсы, бо ня ў гэтым ёсьць Hund begraben, у паказанай вышэй кароткасрочнасьці яго, што не дае магчымасьці фактычнага скарыстаньня гэтае свабоды рэальнаю агітацыяй у прэсе ня толькі на вёсцы, дакуль за час 28. XII—8. І некалькі толькі нумараў новай часопісі маглі-б дайсьці, але таксама і ў месьце: людзі ня ўскуралі-б разглядзецца ў сытуацыі, зважыць і разважыць спрэчныя і ясныя вольных часопісяў прапазыцыі, а тут ужо 8 студня!

Здавалася-б быццам ратуе крыху сытуацыю стрыманьне ад выбараў большасьці насяленьня: ліцьвіноў, беларусаў, жыдоў і тых палякоў, якія цьвяроза глядзяць на справу і ня хочуць прыкладаць рукі да яшчэ большае заблутанасьці і загостранасьці адносін з грамадзянствам Незалежнае Літвы, з якім-жа ж пэўна, а не з варшаўскім прыдзецца жыць разам. Стрыманьне гэтае адразу робіць гэту сытуацыю шмат прасьцейшаю, меньш заблутанаю, бо ўвага тых, што галасуюць ня мае дзе, сярод партыйных і нацыянальных спрэчнасьцяў і калатні, расьцярушвацца. Нажаль, польскія партыі, якія дачыняюцца да выбараў, ня толькі ня злучыліся паміж сабою, а папростаму б'юцца, віргаюцца, лаюцца— словам цэлы спэктакль на пацеху нэўтральных бойкотыстых і клопат „do rozebrania“ дзеля галасуючага плебсу.

Гэта зьяўляецца адзінаю хмаркаю на ясным небе сярэднялітоўскае мудрае і правідчае палітыкі. Праз гэта вось, думаем, што ня толькі падпісваючы дэкрэт ўсьмехваўся п. Аляксандар, але й надалей ня мае ён лішняга поваду да зморшчаньня броваў. На Шыпке все спокойно—„дакладваюць“ з Вільні Варшаве“

### Жудасная доля паварочаных уцекачоў.

Дэмократычная польская газета «N. Dzieńnik Białostocki“ зьвярнулася да жыхароў з гарачым заклікам прысьці на помач уцекачом, якія цяпер прыяжджаюць з Расеі.

«N. Dzieńnik Białostocki» у сваёй адозьве кажа, што ўцекачы едуць ад Баранавіч, ад Роўна па 4 дні й начы ў сьцюдзёных, брудных вагонах, галодныя, голыя. На дарозе на кожнай станцыі санітары выносяць з вагонаў скасьцянелыя трупы матак, дзяцей, старых.

Прыехаўшы да Беластоку, чуць жывыя ўцекачы туляюцца па месьце, шукаючы стравы і прыпынку. Пераважная частка ўчекачоў мусіць перайсьці яшчэ цераз пекла, якім ёсьць этап Эміграцыйнага Ўраду ў казармах імя Траўгута, дзе ім прыходзіцца ў самым агідным палажэньні сядзець па некалькі дзесяткаў сем'яў у Белым і Чырвоным бараках або ў няпаленай драўлянай пуні — Чорным бараку. Пад бокам у жыхароў Беластоку гэтыя няшчасныя ўміраюць з голаду, мерзнуць, іх ядуць паразыты. Многія з іх вярнуцца да свае вёскі ня могуць, бо там усё папалена.

На помач уцекачом «N. Dzieńnik Białostocki» адкрыў складаньне ахвяраў.

# Палітычная хроніка.

*Пятніца*, 16 *сьнежня*.

— На 17 сьнежня Лёйд-Джордж назначыў аудыенцыю савецкаму дэлегату Красіну, пасьля чаго той зараз-жа маецца выехаць у Маскву.

— Японская дэлегацыя прыняла з агаворкамі проектаванае ва-

— Паедзем, бацюшка, да школкі. Мне чарга выпала сягоньня вас прывязьці, — заявіў сьвяшчэньніку Сьцяпан.

— Ды што ты здурэў? — зьдзівіўся бацюшка — ці маеш ты, Сьцяпане, розум? Каб я на гэтай запэцканай дошчачцы дзесяць вярстоў ехаў, каб пасьля мяне людзі засьмяялі, а матушка ды ў хату ня пусьціла?

— Ну, калі не падабаецца вам, бацюшка, ехаць са мною, дык я й адзін дарогу ведаю. Бывайце здаровы!

І Сьцяпан так і вярнуўся паражніма дадому. А бацюшка згадзіўся браць нейкі падатак, замест таго, каб сяляне сваімі коньмі яго да школкі прывозілі і езьдзіў туды сваімі ўласнымі коньмі ў брычцы.

Улетку раз адбываліся нейкія ваенныя манэры, ці што, бо з валаснай канцэляры да старасты ў Сьцяпанаву вёску прыйшоў строгі прыказ усім гаспадаром выехаць „пад салдаты“, а хто не паслухае, дык будзе аштрафованы.

Маршлют забажыўся, што ён нізашто не паедзе, але й штрафу ніякага не заплаціць.

— Каб ты так жыў, — заўважыў на гэта бойкі Маршлютоў сусед Захар, — мелеш языком, ды годзі, як пасядзіш у халоднай тыдняў пару, дык і штраф рад будзеш заплаціць і пад салдаты паедзеш.

— Давай у заклад, — сказаў Маршлют, — калі паеду, дык я табе гарнец гарэлкі пастаўлю, а калі не—дык ты мне і ўсім вось, хто чуе.

— Давай!—адказаў Захар.

Пляснулі па руках і чакалі, што будзе.

У назначаны дзень, Маршлют, як і ўсе суседзі, запрог каня і выехаў да валаснай канцэляры.

— Ну, чый гарнец гарэлкі п'ем сягоньня ў Боруха? — сьмяшліва спытаўся Захар у Сьцяпана, калі ўсе выехалі за вёску.

— А гэта яшчэ невядома, браце,—спакойна адказаў Маршлют, — паглядзім яшчэ, што будзе ў валасьці.

— У Боруха, а ня ў валасьці, сказаў-бы лепш,— паправіў Захар.

— Будзе і ў Боруха, будзе і ў валасьці,— многазначна пацьвярдзіў Маршлют.

Прыехаўшы да сяла, дзе знаходзілася валасная канцэлярыя, Маршлют, доўга ня думаючы павёў Захара і сьведкаў, што былі пры закладзе, як быццам прапіваць у Боруха прагараны ўжо ім гарнец гарэлкі.

Як толькі ўсе добра падпілі і ў карчме стала весела, дык ніхто не прамінуў пажартаваць з таго, што Сьцяпан, як ні хітры, а на гэты раз за гарэлку мусіць заплаціць.

— Пачакайце тут крыху, а я пайду даведаюся, каму за гарэлку плаціць,—паважна абвясьціў Маршлют.

— А дзе-ж ты даведаешся,—спытаўся нехта,— можа ў Борухавай Соркі?

— Ой, не, браточкі! У самога валаснога старшыні даведаюся. Ён-жа ж начальнік на тое й мідаля носіць, каб усе справы ведаць.

— Начальнік, але-ж не ў карчме,—гукнуў нехта...

Але Маршлют ужо быў за дзьвярыма і хістаючыся пайшоў да старшыні.

— Як ты сабе хочаш, пане старшыня, а я пад салдаты не паеду,—заявіў Маршлют.

— Як-то не паедзеш? Вось важная пэрсона знайшлася. Думаеш, што калі выпіў, дык на цябе й рады ўжо няма?

— Больш я выпіў, як табе здаецца, пане старшыня, а пад салдаты каго іншага замест мяне пашлі. Не паеду. Хоць-бы й сам станавы прыстаў прыказаў, а не паеду. Бывай здароў, дадому трэба ехаць.

Старшыня абурыўся, пачуўшы ад Маршлюта, што ёсьць яшчэ й большае начальства і проста загадаў:

— Годзі жарты клеіць. Ідзі ў халодную. Пасядзіш дзён два, гарэлка з галавы выйдзе, дык тады паедзеш, куды табе кажуць.

— Дзе-ж там у халодную, калі ў ёй ужо й так, як у бочцы селядцоў, людзей набічкована. На ліха мне твая халодная,—злосна адказаў Маршлют.

— Ну для гэткага пана ў нас яшчэ знойдзецца месца, дзе пасядзець, — у хлеў зачыню, — пагразіў старшыня.

— Я табе, пане старшыня, не скаціна, каб у хлеў зачыняць.

Ўсердаваўшыся старшыня й сапраўды распарадзіўся пасадзіць Маршлюта пад арышт у хлеў, дзе пісарава карова стаяла.

Як толькі ўпіхнулі Маршлюта ў хлеў, ён яшчэ больш прыдаўся п'яным і адразу паваліўся на гнаі, ня гледзячы на тое, што сьвітка на ім была белая, навюткая, мусі апраненая назнарок. Выкачаўшыся ў гнаі на ўсе бакі, Маршлют закурыў сабе люльку ды чакаў, што будзе далей.

Калі вырушалі ўсе пад салдаты, старшыня спомніў замкнёнага ў хлеў Маршлюта і загадаў яго выпусьціць, каб ехаў разам з іншымі.

— Пад салдаты я ўсё-ж такі ня еду, пане старшыня, — заявіў Маршлют перад людзьмі,—дзе-ж мне гэткаму ўробленаму у людзі паказвацца! А паеду цяпер туды, куды й ня думаў зусім ехаць. Я й да міравога пасрэдніка дарогу ведаю. Дзе гэта відана, каб людзкага чалавека ў быдлячы хлеў заганялі! Хто даў пану старшыне гэткае права? Я гэтага не магу даравацць. Што, мне пісарава карова жонка, ці што, каб з ёю разам клалі мяне. Выбачайце, паеду пасрэдніку скардзіцца.

Сказаўшы гэта перад усімі суседзямі проста ў вочы старшыне, Маршлют, не жартуючы, скіраваўся ехаць да мястэчка, дзе жыў міравы пасрэднік, страшны начальнік валаснога старшыні.

Рады ня было. Старшыня загадаў злавіць Маршлюта, сьцягнуць з яго сьвітку ды, абмыўшы яе ў рэчцы, апрануць яго палюдзку. Ды хай сабе едзе, куды сам хоча.

Ведама, што ў абмытай сьвітцы Маршлют паехаў дадому, а не пад салдаты і выграў заклад, датрымаўшы сваё слова.

Колькі-ж хітрасьці меў Сьцяпан Казун, празваны Маршлютом!

І якім людзкім мог быць ён чалавекам, каб хітрасьць яго скіроўвалася ў лепшы бок ды каб ня піў ён горкае, праклятае гарэлкі з гэткім смакам і з заўзятасьцю.

Краўцоў Макар.

шынгтонскаю конфэрэнцыяй урэгуляваньне марскіх сілаў.

— Фінансавыя агулы дзяржаўнай гаспадаркі Польшчы ад 1919 г. будуць падведзены ў сьнежні месяцы 1922 г. і даложаны міністрам сойму.

— 15. XII ў 5 г. увечары было склікана пасяджэньне палітычнага камітэту польскіх міністраў.

— 15. XII у Бэльвэдэры адбылася ўрачыстасьць абдарэньня францускага гэнэрала Нісэля ордэнам „Virtuti Militari".

— Літоўскім соймам прынята пастанова аб падвышэньні адукацыйнага цэнзу вучыцялёў пачатковых школаў.

— На пасяджэньні польскага сойму 15. XII адбывалася другое чытаньне законапроекту аб падатку. Прыняты ўрадовы тэкст з некатарымі папраўкамі.

— Фінляндыя адказала на ноту бальшавікоў, што зьнімае з сябе ўсялякую адпавядальнасьць за паўстаньне ў Карэліі.

— Лейд-Джордж думае заняцца шмат якімі пытаньнямі аб Расеі.

— Камісія польскага сойму па абароне працы прызнала для прадстаўнікоў разумовае працы штогодні адпачынак у разьмеры 4 тыдняў.

— ПАТ паведамляе, што конституцыйная камісія польскага сойму працавала над разьдзяленьнем Усходняе Галіцы, Валыні, Палесься і ваяводзтваў Навагрудзкага й Віленскага (?) на выбарчыя вокругі. Праз тое, што не хапала некаторых лічбаў, патрэбных дзеля разьдзелу на вокругі, праца адкладзена.

— У Коўне адчыняецца амэрыканскі консулят.

— Упаважненыя Злучаных Штатаў, Японіі, Англіі і Францыі 16. XII падпісалі дагавор аб чацьвярной згодзе.

— Газэты паведамляюць, быццам на новага японскага прэм'ер-міністра зроблены напад.

— У Грацы (Сэрбія) арыштованы нехта Марынкевіч, абвінавачаны ў нападзе на караля Аляксандра.

— 17 студня 1922 г. Лацьвія будзе сьвяткаваць стогодні юбілей першае Латыскае пэрыядычнае часопісі „Latwiesiu Avisen".

*Субота, 17-га сьнежня.*

— Лёрд Сэсыль прыбывае ў Бэрлін, каб азнаёміцца на месцы з палітычным палажэньнем Нямеччыны.

— Чычэрын заявіў протэст проці разважаньня ў Вашынгтоне над пытаньнем аб усходня-сыбірскай чугунцы без дачыненьня Расеі. Савецкі ўрад рашэньняў па гэтым пытаньні не прызнае.

— Дэ-Валера заявіў, што калі ратыфікуецца англа-ірляндзкі дагавор, дык ён адыйдзе ад палітычнага жыцьця.

— Старшыня аднаго з ангельскіх банкаў заявіў, што бальшавікі вядуць у Англіі моцную пропаганду, на якую расходуюць 30.000 фунтаў штомесяца.

— Нямецкі ўрад паведаміў камісію па контрыбуцыі, што можа заплаціць толькі часьць платы за студзень у суме 500 мільёнаў марак золатам. На рэшту Нямеччына просіць пачакаць.

— Нямецкі капіталісты Штынэс вядзе перагаворы са шведзкім таварыствам, каб купіць караблі.

— У Варшаву прыбываюць 47 вагонаў маемасьці лазенкоўскага палацу.

— Гданскі парлямэнт прыняў закон аб польскіх школах, калі ў іх набярэцца да 40 дзяцей.

— Перагаворы паміж Лейд-Джорджам і Брыянам якія маюць пачацца 21. XII будуць, паводлуг газэтных вестак, аб урэгуляваньні міжнароднага фінансавага й эканамічнага палажэньня.

— Францускі парлямэнт прыняў бюджэт большасьцю 521 проці 75 галасоў.

— Чэская мобілізацыя пры авантуры Габсбурга каштавала 500 мільёнаў каронаў.

— Газэты пацьвярджаюць, што прадстаўнікі нямецкіх профэсыянальных саюзаў выяжджаюць у Петраград па справах аб адбудове Расеі.

— Фінляндыя пачала моцны гандаль з Расеяй, пасылаючы туды паперу і паперовую масу.

— На конфэрэнцыю балтыцкіх дзяржаваў выяжджаюць у Рэваль, як дэлегаты Літвы кіраўнік міністэрства заграгічных справаў Юргуціс і літоўскі пасол у Лацьвіі Заўніўс.

— У Рыме забіты быўшы вялікі візыр Турцыі Саід Халім-паша,

— Выдалены з польскае соцыялістычнае партыі (P. P. S.) Балеслаў Дробнэр пачаў выдаваць у Кракаве „Głos niezawisłego socjalisty", які орган мае быць газэтай новае партыі „незалежных соцыялістых".

*Нядзеля, 18 сьнежня.*

— Джэмс Крэг, адказаўшы на пісьмо Лейд-Джорджа, протэстуе проці аўтоматычнага далучэньня Паўночнай Ірляндыі да Ірляндзкага гаспадарства.

— Тры гданскія сэнатары выяжджаюць у Варшаву дзеля перагавораў аб таможаных тарыфах.

— Брыян патрэбаваў у сэнаце скончэньня спрэчак па пытаньню аб адносінах з Ватыканам да яго выезду ў Лёндан.

— 16. XII прыехаў з Расеі ў Варшаву Фрытыоф Нансэн.

— Прэзыдэнтам Швэйцарскае фэдэрацыі выбраны Робэрт Гааб.

— Офіцыяльныя весткі сьведчаць, што капітулявалі 27 тыс. індыйскіх паўстанцаў. У зьвязку з непарадкамі, паўстаўшымі ў час праезду насьледніка ангельскага трону, арыштована ў Індыі 600 асобаў, у тым ліку амаль ня ўсе павадыры паўстаньня й галоўныя агітатары.

— Нямецкі ўрад офіцыяльна паведаміў, што часьці контрыбуцыі за студзень заплаціць ня можа.

— 16, XII было апошняе пасяджэньне польскага сойму перад сьвятамі. Сойм зьбярэцца 10 студня.

— Нямецкі канцлер Вірт сказаў у рэйхстагу вялікую прамову аб ноце з прычыны немагчымасьці платы контрыбуцыі за сьнежань.

— Кароль Габсбург напісаў протэст проці выдаленьня яго з Вэнгрыі й выдачы камандзеру ангельскай флётыліі, Габсбург лічыць і надалей за сабою права на карону.

— Камісія італьянскага парлямэнту на заграгічных справах выказалася за аднаўленьне зносін з Расеяй, калі гэтым будуць забясьпечаны інтарэсы Італіі.

*Панядзелак, 19 сьнежня.*

— Фракцыя нямецкіх незалежных соцыялістых падала ў рэйхстаг гэткую інтэрпэляцыю: з ходу справы Капа выясьнілася, што Людэндорф зрабіў дзяржаўную здраду. Ці аддаў урад прыказ аб яго арыштаваньні й ці замерваецца прыцягнуць яго да адпавядальнасьці.

— У Крыме рэвалюцыйны камітэт заменены радаю народных камісараў, якая выпусьціла свае крэдытныя білеты ў 1000 рублёў. Грошы гэтыя адбіты на туалетнай паперы й дзяруцца страшэнна.

— Згодна з офіцыяльным паведамленьнем бальшавікоў, у Карэліі йдуць баі з паўстанцамі.

— У Стокгольм прыбылі прадстаўнікі карэлаў дзеля набору шведзкіх ахвотнікаў.

— На чале чырвонаармейцаў, што ваююць з карэльскімі паўстанцамі стаіць, вядомы камуністы Рахія, прысуджаны ў свой час фінляндзкімі ўладамі да кары сьмерцю.

— Паводлуг вестак аднае нямецкае газэты, ў петраградзкіх перагаворах аб адбудове Расеі будуць браць удзел прадстаўнікі нямецк. ураду, нямецкіх профэсыянальных саюзоў і прамысловасьці.

*Аўторак, 20 сьнежня.*

— Японскія дэлегаты на вашынгтонскай конфэрэнцыі паведамілі прэсу, што Японія лічыць чацьвярную згоду менш выгаднаю для сябе, чымся англа-японскі саюз.

— Такэ Іонэску паведаміў караля аб сваёй згодзе стварыць новы румынскі кабінэт.

— Португальскі кабінэт стварыўся. Прэм'ерам і міністрам унутраных справаў Куна Леаль.

— Камітэт па арганізацыі ў Варшаве „вялікага віленскага тыдня" выпусьціў спэцыяльную адозву, цьвердзячы проста: „Вільня наша!"

— Італьянская парлямэнцкая камісія па заграгічных справах адкінула прапазыцыю соцыялістых аб незабаўным аднаўленьні дыплёматычных і эканамічных зносін з савецкаю Расеяй.

— Ангельскі парлямэнт і палата лёрдаў ратыфікавалі ірляндзкі дагавор.

— З Вашынгтону паведамляюць,

# Стася.

(Глядзі № 23).

— Чаго-ж ты так скрывіўся? Што, можа не спадабаліся губы мае? Тады, апроч цябе, ніхто не цалаваў іх, а цяпер ня зьлічыш колькі прыліпла да іх гразі; глянь на грудзі мае, ты ніколі іх ня бачыў, а цяпер можаш прыглядацца да іх, колькі душачцы тваёй захочацца, як прыглядаліся мае любоўнікі; паслухай, як сэрца б'ецца; яно так моцна б'ецца ад выпітай гарэлкі, а тады яшчэ крапчэй білася яно і замірала ад каханьня. А цела, цела маё... ты баяўся глянуць на яго, дык аглядалі іншыя, праўда за грошы.

— Я табе дарма пакажу яго...

І Стася скора-скора пачала скідаць з сябе вопратку, дзёрла яе на кавалкі, разрывала гузікі і гапкі, ажно прад маімі вачамі сьнегавой бельлю зарысавалася голая цела Стасі ў бясстыжай сваёй красе.

— Глядзі, на што баяўся паглядаць тады!

Я закрыў рукамі твар.

Стася падышла, адарвала рукі і заглянула мне проста ў вочы.

— Што з табою?

А-а-а! спужаўся,—з нейкай дзікай радасьцю крыкнула Стася і ўпілася вачамі ў мае вочы.

— Чаго-ж спужаўся ты,—нейкім ціхім, дрыжачым голасам адазвалася яна,—цела майго? Ідзі, ідзі сюды, ня пужайся, яно даўно чакае тваіх абняцьцяў... ужо тады... то сны мае...

Стася нахілілася нада мною, абвіла рукамі, ўпілася губамі ў мае губы, тулілася голым целам і абясьсілеўшая заціхла ў маіх абняцьцях.

---

Назаўтра рана самаход панёс Стасю далёка ад Мэнджылю, да месца яе службы. Аб тым, што было ўночку, ніхто з нас не спамянуў ні слова. Стася была вясёлай, гаварлівай, бесьперастанку сьмяялася, жартавала, толькі седзячы ўжо у самаходзе шапнула мне на вуха:

— Чаму тады, калісь, ты быў такі дурнаваты, Сьцёпа?! Ну будзь здароў.. дурнаваты Сьцёпа!.. Стася засьмяялася і паказала рукою ехаць.

Я хацеў нешта адказаць, але самаход ужо рухнуў з месца і пакаціўся па пыльнай дарозе.

— Прыедзеш да мяне, ўсё тады раскажу,—ўжо здалёк крыкнула Стася, і за хвіліну самаход прапаў з маіх вачэй у хмары пылу і дыму.

Хутка я адтрымаў ад Стасі ліст, у каторым яна коратка паведамляла на які адрэс пісаць да яе і як яе знайсьці.

З часу ад'езду Стасі, я шмат думаў аб ёй.

Страшэнна шкада мне было зламанага маладога жыцьця!

Словы, кінутыя ёю нявольна у гэную памятную ночку адкрылі прада мною ўсю глыбіню тае жыцьцёвае духоўнае драмы, каторую мусіла перажыць і цяпер пераживала Стася.

Князь, любоўнікі, гуляшчая кампанія распусьнікаў, падмосткі кафэшантанаў—вось куды кідала яе жыцьцё, вось дзе гадавалася душа Стасі, што заглядала некалі ў сонца каханьня!

А цяпер ізноў гэнае спатканьне... З чым паехала адсюль Стася? Я сіліўся разгадаць яе і ня мог, і чым больш думаў аб ёй, тым больш праконаваўся, што зусім ня знаю Стасі.

А мне так хацелася памагчы ёй. Жаданьне гэта выклікалася ня толькі тым, што я быў можа нявольным вінавайцай яе гора; прыцягала мяне яе нязвычайная краса, яшчэ чуў я на губах яе гарачыя пацалункі і біцьцё закаханага сэрца на маіх грудзёх.

Я чакаў спатканьня са Стасяй і баяўся яго. Бачыць яе п'яненкай, быць можа, ў кампаніі іншых... тых, аб каторых яна гаварыла... Не! гэта было вышэй маіх сілаў. Я не знаходзіў адказу і з трывогай чакаў дня, калі зноў убачуся са Стасяй.

Гэтак праходзілі дні за днямі. Прайшло дзён з 10. Справы службовыя моцна трымалі мяне ў Мэнджылі і толькі праз нейкі тыдзень я меў надзею вырвацца да Стасі.

Адзін раз уночы, калі я крэпка спаў пасьля далёкай падарожы, пачуў, што нехта мяне будзіць. Нездаволены, я перавярнуўся на другі бок, але будзіць не пераставалі. Я расплюшчыў вочы і сеў на пасьцелі.

Ноч была нязвычайна ціхая і спакойная, здалёку далятала нейкая дзікая і маркотная песьня пэрса, я чуў як недзе блізка вярблюды хрумсалі сваю яду, каля хаткі мае разлягаліся крокі вартавога жаўнера, каторы, ходзячы па надворку і пабразгіваючы стрэльбаю, нешта бурчаў сабе пад нос. Праз ваконца ў пакоік улівалася хваля сярэбраных косаў месяца, кладучыся яркай белай плямай на глінянай падлозе.

І вось у водблеску іх я ўбачыў пры ложку маім Стасю. Апранута яна была так, як бачыў яе апошні раз; белая касынка атуляла яе галаву, пакідаючы адкрытымі толькі вочы і частку твару. Яна стаяла пахіліўшыся нада мною і, торкаючы мяне за руку, будзіла:

— Сьцёпа, ўставай, прачніся, Сьцёпа!

што туды прыехаў мітрапаліт Шэптыцкі.

— Начальнік францускай вайсковай місіі ў Польшчы гэнэрал Нісэль хутка выяжджае ў Францыю, дзе займе высокую вайсковую пасаду. На яго места ў Польшчы будзе назначаны гэн. Дюпон.

— Польскі сойм прыняў закон аб ваеннай службе. Чынная служба будзе цягнуцца два гады, запас — да 40 гадоў; прызыўны век у ваенны час 21 год, а ў спакойны — 19 гадоў.

— Лейд-Джордж заявіў дэпутацыі рабочай партыі, што Англія й цяпер гатова быць у канфэрэнцыі аб адбудове Расеі, калі толькі рэшта саюзьнікаў на гэта згодзіцца.

— Магчыма, што Нямеччына атрымае адсрочку заплаты часьці контрыбуцыі за студзень і люты, калі дасьць гарантыю, што наагул заплаціць яе.

— Раніцай 16.XII адбылася доўгая нарада Лейд-Джорджа з Красіным у прысутнасьці міністра фінанаў Горна.

— Нямецкаму ўраду ставіцца тры пытаньні камісіяй па контрыбуцыі: 1) колькі заплаціць Нямеччына ў студні і лютым; 2) на які час просіць адсрочкі і 3) якія дае гарантыі, што заплаціць у паказаны ёю час.

— „Украинския Известия“ зьмяшчаюць доўгі сьпісак закладнікаў, расстраляных Ч. К. за тыя расстрэлы, якія былі зроблены паўстанцамі.

*Серада, 21 сьнежня.*

— Як паведамляюць з Ангоры, афіцыяльна туркі 15.XII абвяшчаюць, што грэкі значнымі сіламі атакавалі туркаў, але адышлі пасьля бою з вялікімі стратамі.

— Бальфур заявіў афіцыяльна, што Англія выступіць з прапазыцыяй аб зьнішчэньні падводных чайкаў.

— Францускі парлямэнт выказаў веру палітыцы Брыяна датычна Ватыкану 174 галасамі проці 129.

— Нямецкі парлямэнт пастанавіў адмяніць выняткавае палажэньне на тэрыторыі ўсяе Нямеччыны.

— Аўстрыйскі ўрад прыслаў плебісцытнай камісіі ў Шопроні ноту, паведамляючы, што Аўстрыя ня прызнае рэзультатаў плебісцыту.

— У Амэрыканскія Злучаныя Штаты дазволена прыяжджаць усім расейскім студэнтам, што маюць адпаведныя дакумэнты.

— У спатычках, якія здарыліся ў Бэльфэсьце 17 сьнежня на вуліцах места, 5 чал. забіта, 15 ранена.

— Газэты паведамляюць, што на нарадзе Лейд-Джорджа з Брыянам будзе разглядацца й пытаньне аб Усходняй Галіцыі.

— Англіяй зроблены падгатаваньні да вывазу яе войскаў з Ірляндыі.

— Францускі сэнат прыняў закон аб прызыве рэкрутаў 1922 г.

— „Daily Mail“ паведамляе, што Брыян, будучы ў Лёндане, мае дамагацца незабаўнае высылкі ў Нямеччыну контрольнае камісіі, якая павінна выведаць сучаснае эканамічна-фінансавае палажэньне Нямеччыны.

— На пасяджэньні італьянскага парлямэнту соцыялістыя патрэбавалі абгавору зямельнае рэформы. Большасьцю 187 галасоў пастаноўлена разглядаць законапроект.

*Чацьвер, 22 сьнежня.*

— Пасьля спатканьня з Лейд-Джорджам, начальнік савецкае гандлёвае дэлегацыі ў Лёндане, Красін вяртаецца ў Маскву.

— Першае пасяджэньне конфэрэнцыі ангельскага й францускага прэм'ераў 21. XII.

— Савецкая прэса вельмі оптымістычна ацэньвае працу Красіна ў Англіі.

— Пры выбарах у пазнанскую меставую раду перамагла партыя Z. L. N. Пераможана P. P. S.

— Рэспубліка Далёкага Усходу пачала вайну з Уладывастоцкаю Рэспублікай.

— Рада паслоў пастанавіла адкінуць нямецкія трэбаваньні аб звароце шкодаў, зробленых у Верхняй Сьлезіі польскім паўстаньнем.

— „Daily Express“ паведамляе, што Нямеччыне ня будзе зроблена ніякіх палягчэньняў, пакуль яна не заплаціць контрыбуцыі за студзень і люты.

— Украінска-нямецкія гандлёвыя перагаворы падходзяць да канца.

— Зроблены гандлёвы дагавор паміж Югаславіяй і Нямеччынай.

— Швэйцарскія соцыялістыя пры муніцыпальных выбарах страцілі абсолютную большасьць, якую мелі раней.

— Ангельскія газэты запэўняюць, што Лейд-Джордж мае замеры правесьці праз парлямэнт прызнаньне савецкага ўраду ў Расеі. У той самы час разважацца будзе пытаньне аб супрацоўніцтве Англіі й Нямеччыны пры адбудаваньні Расеі.

— Францыя маецца патрэбаваць, каб Нямеччына заплаціла часьці контрыбуцыі за студзень і люты.

— 22. XII назначана ў Бэльвэдэры пасяджэньне польскае рады міністраў пад старшынствам самога Начальніка Дзяржавы. Разважацца маюць пытаньні міжнароднае палітыкі.

— „Gaz. Warsz.“ паведамляе, што Начальнік Польск. дзяржавы Язэп Пілсудскі, як асоба, што мае права галасаваць пры выбарах у віленскі сойм, зьвярнуўся ў мясцовае бюро па выбарах, дзе яго й запісалі пад № 1250. Голас свой Начальнік дзяржавы падасьць у залі Віленскага Унівэрсытэту.

# Жыцьцё провінцыі.

## ГОРАДЗЕН.

(Ад *уласнага корэспондэнта*).

Як ведама, ў Горадне ў сучасны момэнт, дзякуючы „толеранцыі“ ўладаў, не засталося ніводнае беларускае (ня кажучы аб палітычных) культурна-грамадзкае адзінкі. Праўда ёсьць філёнтропічная арганізацыя „Беларускае Дабрачыннае Т-ва“, якое рупіцца аб дзіцячым прытулку.

Беларусу, якому прыходзілася быць у Горадне да разгрому беларускіх арганізацыяў, нявольна кідаецца ў вочы тая мярцьвечына, якая пануе (дзякуючы варункам) сярод беларускіх кругоў.

Няўжо-ж тая вялікая адраджэнская праца, якая зроблена шчырымі сынамі свае бацькаўшчыны ў Горадне і Горадзеншчыне, згіне?

**Гаротны.**

## Перад выбарамі.

**Вёска ВЕТХАВА, Беніцкае воласьці, Ашмянскага пав.**

Арыштованы паліцыяй і зьбіты беларускі вучыцель Янка Дудка. Пры гэтым здарэньні былі сьведкі. У вёсцы Заскавічах арыштованы вучыцель Гаўрылік. Арыштованы вучыцель з в. Міцкевічаў. Было і больш арыштаў. Віны за арыштованымі ніякае няма, а проста мусі хочуць пратрымаць іх пад арыштам перад выбарамі ў Сойм.

**Вёска ЗАСЬВІР'Е, Сьвянцянскага пав.**

Арыштованы дамовым арыштам беларус кс. Кастусь Стаповіч. Прычына арышту невядомая. Пры рэвізіі ў арыштованага забралі ўсю корэспондэнцыю.

**М-ка БАРУНЫ, Ашмянскага пав.**

Пачынаюцца выбары, а наш пробашч кс. Пятроўскі дасюль яшчэ недзе пад арыштам у Вільні. Адчуваецца ў нас вялікая патрэба бачыць яго на месцы, каб парадзіў нам, ці трэба галасаваць. А так, дык народ ня ведае, ці галасаваць і пэўна, што рабіць гэтага ня будзе.

**Б.**

## Неяк недарэчы.

**С. ДЗІКУШКІ, Лідзк. павету.**

Цікавая зьявішча, арыгінальнае! Бацюшка ў сваім уласным будынку адчыніў проці волі насяленьня польскую школу. Дачка скончыла беларускія вучыцельскія курсы ў Вільні ў 1921 г., цяпер яна здраджвае беларускіх дзетак, калечыць памаленку іх. А бацюшка стараецца не адстаць ад дачкі. Ён лае грамадзян за тое, што яны ня хочуць слаць дзетак да школы.

Будзем цешыць сябе думкаю, што гэтае зьявішча рэдкае. **П.**

## Ня хочаш, дык папросяць іначай...

Ўсё-такі Валожынскі Інспэктар школы адчыняе толькі польскія, ня гледзячы на тое, што сяляне просяць беларускіх. А там, дзе бацькі не пасылаюць сваіх дзяцей у польскія школы, будуць палкамі гнаць... казаў валожынскі стараста.

**Ц.**

Я ўсьцешыўся і сон у мяне прайшоў адразу.

— Гэта ты, Стася! Які добры дух прынёс цябе?

— Відзіш, Сьцёпачка, надта мне трэба было пабачыць цябе, толькі ты мяне не затрымоўвай, бо ня маю часу.

І, сказаўшы гэта, Стася адвярнулася і скіравалася да дзьвераў.

— Стася, пачакай,—крыкнуў я,—куды гэтак сьпяшыш?—і кінуўся даганяць яе. Але Стася выйшла ўжо, скрыпнуўшы дзьвярыма.

Я выбег за ёю на двор, але там таксама нікога ня было, апроч вартаўніка, каторы, ўгледзіўшы мяне затрымаўся і выцягнуўся як прад начальнікам.

Я клікнуў яго.

— Што прыкажаце, ваша благародзіе?

— Дзе тая пані, што толькі што выйшла ад мяне.

— Пані? Ніякая пані не праходзіла тут.

— Ты што, спаў?

— Ніяк не, ваша б-дзіе!

— І ня бачыў?

— Ня бачыў.

Я пайшоў да Ігната, падумаўшы, што можа, ня будзячы мяне, ён сам адвёў Стасі той самы пакоік.

Але мой Ігнат спаў моцным сном, з фасонам задзёршы галаву і прысьвіставаючы на усялякія спосабы.

Зайшоў у пакоік—там было пуста Я нічагусенькі ня мог зразумець. Я ясна бачыў Стасю, чуў голас яе, чуў даткнуцьце яе рукі, хіба-ж ня сон гэта?..

Я апрануўся, выйшаў у каманду. Дзяжурны, здалёку ўбачыўшы мяне, падыйшоў з рапартам.

— Самаходы пасьля майго прыезду ніякія не прыяжджалі?

— Ніяк не!—бойка адказаў той.

Я з гэным і вярнуўся да хаты, дзівячыся, як гэта, часам, прысьніцца чалавеку, быццам сапраўды.

Лёг на ложку і пад шэпты ціхай ночы хутка зноў заснуў.

Прайшло мусіць з тыдзень часу, пакуль удалося мне вырвацца ў Э... З нейкай трывогаю падяжджаў я да гораду.

Хутка па прысланым адрэсе я знайшоў бальніцу, дзе працавала Стася.

На маё пытаньне, ці можна яе бачыць, нейкая, ўжо немаладая міласэрная сястра глянула, пытаючы, на мяне і замест адказу сама запыталася:

— А вы хто такі будзеце, брат яе, ці сваяк?

— А вам ня ўсё роўна, сястронка, зажартаваў я.

— Бачыце, яна памёрла.

— Ня можа быць,—нявольна вырвалася ў мяне.

— Як гэта, ня можа быць, засердавалаа тая, што-ж я жарцікі строю, ці што—памёрла, ўжо тыдзень будзе, як памёрла; ў нас туткі шмат ад халеры паўмірала, так, так...

---

На беразе мора, на ўзгорку пясчаным, паросшым нейкімі калючымі кустамі, паміж некалькімі дзясяткамі іншых магілак, была дамоўка Стасі.

З прыгорку адчыняўся шырокі кругазор на мора, каторае за некалькі сот крокаў сваімі шарымі хвалямі лізала зямлю.

Сонца парка гарэла на небе залатым шляхам адбіваючыся ў вадзе; ад мора йшоў ціхі спакойны гоман, быццам чароўная байка аб нязнанай нам праўдзе жыцьця і сьмерці.

**Дзядзька Пранук.**

(Канец).

# Народная песьня.

Дробна пташачка, невялічкая
Па былінцы скача;
Дурна дзеўчына, неразумная
Па хлопчыку плача.

— Ды я ня плачу, ды ня тужу,
Самі сьлёзкі льюцца,—
Ад мілага лістка няма,
Ад нялюбага шлюцца.

Хоць шліцёся ды шліцёся,
Я ваша ня буду,
Каму я ручку дала
З тым я жыці буду.

Дала я руку чалавеку
З ім я буду жыць да веку.

Сьпісана са словаў
Волькі Баракоўскай
з м-ка Валожына.

Падаў **Костусь Маеўскі.**

# Беларуская хроніка.

### Апавешчаньне Беларускага Нацыянальнага Камітэту.

З прычын паяўленьня ў газэтах вестак аб так званым „Зьезьдзе Заходняе Беларусі“, які адбыўся ў Вільні 11 і 12 сьнежня г. г., Беларускі Нацыянальны Камітэт, як адзінае прадстаўніцтва ўсяго арганізованага беларускага грамадзянства, гэтым падае да агульнага ведама ніжэйпісанае:

Сказаны зьезд быў склікаваны не якой-колечы беларускай нацыянальнай установай, а так званай „Краёвай Сувязьзю“, ў каторай арганізованае беларускае грамадзянства не прадстаўлена.

На зьезд ня толькі ня былі запрошаны ніякія беларускія грамадзкія арганізацыі, але навет прадстаўнікі іх, якія памыкаліся пранікнуць на гэны зьезд, былі груба выдалены, ды некаторыя навет пабіты арганізатарамі „Краёвай Сувязі“ і зьезду;

Зьезд складаўся не з прадстаўнікоў шырокіх масаў Беларускага Народу, а выключна з прадстаўнікоў лёкальных арганізацыяў тэй-жа „Краёвай Сувязі“ і асоб, пэрсанальна запрошаных агентамі „Краёвай Сувязі“.

Іншыя з вучасьнікаў зьезду запрашаліся на яго як-быццам выключна дзеля школьных справаў, папраўдзе-ж зьезд насіў ярка палітычны характар.

На самым зьездзе вучасьнікі тэрорызованы арганізатарамі, і тыя, хто быў западозраны ў няпрыхільнасьці да палітычных мэтаў „Краёвай Сувязі“, ня толькі недапускаліся да голасу, але навет пазбаўляліся зацьверджаных ужо мандатаў і груба выдаляліся з залі зьезду;

Такім парадкам зьезд, шумна названы „зьездам Заходняе Беларусі“, зьяўляецца зьездам выключна арганізацыі „Краёвай Сувязі“, і пастановы яго ні ў якім прыпадку ня могуць быць прызнаны за голас беларускіх народных масаў Заходняе Беларусі.

15. XII. 1921.

### У 1-й Віл. Беларускай Гімназіі.

На Калядныя канікулы вучні Гімназіі будуць распушчаны сягоньня, 23-га сьнежня аж да 15 студня новага 1922 г.

Сягоньня яшчэ адбудуцца ўсе лекцыі нормальна.

### У Музыкальна-Драматычным Гуртку.

Беларускі Музыкальна-Драматычны Гурток даводзіць да ведама ўсіх беларусоў, што жадаючыя сьвяткаваць сёлетнюю Куцьцю супольна павінны запісацца ў Гуртку і ўнясьці 1000 м. Вячэра пачнецца а 7 гадз. ўвечары.

У дні сьвяточныя адбудзецца:

25 сьнежня — лёта.
26 „ танцавальны вечар.
28 „ прадстаўлена будзе: „Каралевіч Зыла“ п'еса у 1 акце, „Па рэвізіі“ кам. і „Я памёр“ кам.
30 „ Баль-маскарад.
31 „ Сустрэча Новага Году: „На папасе“ драмат. абраз. „Багаты і Бедны“ аднаактоўка з песьнямі. „Новы Год“ інсцэніз. хор безработных, каза, танцы дывэртысмэнт.
2 студня 1922 г. Прадстаўлена будзе: „Марцэлька“ у 3-х актах для вучняў Віленскіх беларускіх школ.
4 „ прадстаўлена будзе: „Лес шуміць“ драма ў 2-х акт. і „Боты“ опэрэта.
6 „ Баль-маскарад.

Учасьце прымаюць усе мастацкія сілы. Новыя дэкорацыі, папоўнены аркестар.

### Палкоўнік Шардыні ў Вілен. Белар. Нацыянальным Камітэце.

У суботу, 17 сьнежня, каля адзінаццатай гадзіны дня адведаў Беларускі Камітэт Старшыня Кантрольнай Камісіі Лігі Народаў палкоўнік Шардыні і ў працягу больш як гадзіны знаёміўся з поглядамі Віленскага Беларускага Нацыянальнага Камітэту па розных культурных і палітычных справах сучаснага момэнту. Тэмай размоваў былі: адносіны беларусаў да Віленскага Сойму, да Тымчасовай Урадуючай Камісіі Сярэдняй Літвы, справа беларускай школы ў Сяр. Ліцьве і ў Польшчы, справа аб бежанцах, што вяртаюцца ў Заходнюю Беларусь і мн. інш.

Уважна выслухаўшы інформацыі прадстаўнікоў К-ту, п. Шардыні пасьля 12 гадз. дня разьвітаўся з прысутнымі сябрамі Камітэту. Пры размове былі грамадзяне: А. Смоліч, А. Карабач і М. Кахановіч.

# ТУТЭЙШАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

### НОВЫ ДЭКРЭТ АБ ДРУКУ.

W. A. P. паведамляе, што дэкрэт Старшыні Час. Ўрад Камісіі аб зьмене правілаў аб друку наагул, а аб прэсе асабліва гаворыць ніжэйпаданае:

*Арт. 1.* Прэса вольна. Яе воля падлягае толькі абмежаваньням, прадбачаным у адпаведных карных законах.

Тое самае датычыць друкаў, адбіваных мэханічным ці хімічным спосабам і прызначаных дзеля пушчаньня ў ход, як кнігаў, брашураў, лятучых картак, плякатаў, нотаў, малюнкаў, плянаў і картаў.

*Арт. 2.* Пэрыядычныя часопісі паўстаюць у парадку заяўным. Заявы аб закладзе газэты павінны быць паданы ў дэпартамэнт унутраных справаў і зьмяшчаць гэткія даныя:

1) Назва і род газэты, а таксама мова, якою яна будзе выдавацца; 2) імя, прозьвішча, век і грамадзянства рэдактара й выдаўца і іх адрэсы; 3) разьмер падпісное цаны й цана паасобнага нумару; 4) друкарня, ў якой будзе друкавацца газэта і 5) адрэс рэдакцыі і адміністрацыі.

*Арт. 3.* Рэдактарам і выдаўцом можа быць кожная асоба, што адпавядае гэткім варункам: мае скончаных 21 год, заўсёды пражывае на тэрыторыі, на якой маюць адбыцца выбары ў віленскі сойм, не пазбаўлена правоў праз суд, або не абмяжована ў правох і пражывае там, дзе выдае, або рэдагуе часопісь.

*Арт. 4.* Калі рэдактар, ці выдавец не адпавядаюць варункам, прадбачаным у арт. 3, альбо ў паданай заяве ня былі паказаны ўсе даныя, прадбачаныя ў арт. 2, дык можа ў працягу 5 дзён ад дня, калі была падана заява, адбыцца збоку Дэпарт. Ўнутр. Справаў забарона выдаваць газэту.

Да канца гэтага сроку ня можа быць пачата выдаваньне газэты,

*Арт. 5.* Рашэньне дырэктара дэпартамэнту ўнутранных справаў можа быць абжалавана ў працягу 2-х тыдняў у касацыйную палату.

*Арт. 6.* Усе нарушэньні абавязковых правілаў, а таксама ўсе праступкі, зробленыя праз друк, належаць да компэтэнцыі суда.

*Арт. 7.* На паасобную друкаваную рэч, або нумар газэты, што мае прыметы праступку, а таксама на клішэ, ці формы, што служаць да друкаваньня данае друкаванае рэчы, можа быць накладзены арышт сьледчымі ўладамі пры адначасным пачатку судовае справы.

Рашэньне аб зацьвярджэньні, ці аб адмене арышту Акружны Суд павінен выдаць на гаспадарчай сэсіі незабаўна па адтрыманьні адпаведнае прапазыцыі пракурорскае ўлады.

Адмяняюцца ўсе ранейшыя абавязковыя правілы, праціўныя гэтаму дэкрэту, асабліва арт. 7, 8, 10, 11, 12, 13, 15, 16, 17, 18, дэкрэту Галоўнага Камандзера Войскаў Сярэдняй Літвы № 80 (Dz. Urz. № 6 за 1 лютага 1921 г.), а таксама дэкрэт № 363 (Dz. Urz. № 32 за 6 кастрычніка 1921 г.) ў часьці, што недатычыць твораў, якія зьмяшчаюць у сабе выступленьні проці арміі. Прыстасаваньне паказаных у гэтым дэкрэце караў належыць да компэтэнцыі суда.

*Арт. 9.* Выкананьне гэтага дэкрэту даручаецца Дырэктару Дэпартамэнту Справядлівасьці й Дырэктару Дэпартамэнту Ўнутраных Справаў.

Дэкрэт набірае сілы з 10 сьнежня 1921 году.

### 300 тысячаў.

„Вил. Утро“ (№ 72) піша: „Намі паведамлялася, што на імя жыдоўскае абшчыны было прызначана на культурна-прасьветныя мэты з прысланых Начальнікам Польскае Дзяржавы 15.977.500 марак—300 тысяч марак.

Трэцяга дня адбылося пасяджэньне жыдоўскіх цэнтральных культурна-прасьветных інстытуцыяў, на якім пастаноўлена, з прычыны нязначнасьці сумы грошай, адмовіцца ад іх адтрымоўваньня. Мотываванае рашэньне будзе падана ў дэпартамэнт прасьветы“.

## Пісьмо ў Рэдакцыю.

Паважаны грам. Рэдактар!

На падставе пададзеных у прэсе інформацыяў („Белар. Зв.“ № 23 і „Раніца“ № 1) аб так званым «Зьездзе Заходняй Беларусі» лічу патрэбным паведаміць аб ніжэйшым.

Я ўважаю, што ўспомнены «зьезд» быў палітычнай дэмонстрацыяй людзей, якія здраду беларускай справы хочуць замаскаваць рэзалюцыямі аб асьвеце, аб зямельнай справе і г. д. і гэтым засьляпіць вочы маласьвядомым масам. Дзеля гэтага ня можа быць жаднай гутаркі аб тым, каб я згадзіўся прыняць становішча, на якое мяне выбраў той зьезд, з якога нанятыя асобы выкідалі і білі маіх палітычных сяброў і не дапусьцілі мяне да зьвезеных на „зьезд“ людзей.

**Сымон Рак-Міхайлоўскі.**

18. XII. 21 г.

## Віленская біржа.

Офіцыяльна.

За 21 сьнежня 1921 г.

| | Куплена. | Прадана. | |
|---|---|---|---|
| Даляры | 2900 | 2860 | п. м. |
| Нямецк. маркі | 18,50 | 17.10 | „ |
| Ост.-маркі | 17,20 | 17,00 | „ |
| 10 руб. золатам | 14950 | 14870 | „ |
| Француск. франкі | 235 | 225 | „ |



## Новыя кнігі.

**М. Гарэцкі. — „Гісторыя беларускае літэратуры“** (старадаўнае, новае і сучаснае). 208 стр., 33 рысункі, альбомная папера, цьвёрдая акладка. Цана 150 польскіх мар.

**Браты М. і Г. Гарэцкія — „Маскоўска-беларускі слоўнік“**, выданьне II, з папраўкамі і вялікімі дадаткамі, 144 стр., цана 75 польскіх марак.

**Антон Навіна—„Пуцяводныя ідэі беларускае літэратуры,** адбітка з „Нашае Думкі», цана 20 польскіх марак.

**А. Канчар — «Клясавае, нацыянальнае і рэлігійнае змаганьне на Беларусі»**, адбітка з «Нашае Думкі», цана 20 польскіх марак.

**Я. Лёсік—„Нашая крыніца“**, трэцяе чытаньне для беларускіх пачатковых школ. 107 стр., цана 50 польскіх марак.

**Тэрміналёгія арытмэтыкі,** укладзеная Камісіяй Менскага Беларускага Пэдагогічнага Інстытуту. Цана 10 польскіх марак.

**Л. Гарэцкая. — „Родны Край“**— трэцяя і чацьвёртая пасьля лемантара кніжка да чытаньня. Цана 150 мар.

**Францішак Аляхновіч.—Заручыны Паўлінкі** пьеса ў 1 акце з песьнямі і скокамі. Цана 50 мар. п.

Апрача таго, передрукаваны:

1. **Лемантар „Зорка“** ч. 1 А. Смоліч, цана 20 м.
2. **Беларуская Граматыка** Тарашкевіча, цана 22 м.
3. **Задачнік Юрэвіча** год I.

Прадаюцца ў «Беларускай Кнігарні», Вільня, Завальная 7.



## АБВЕСТКА.

Гэтым даводзіцца да агульнага ведама, што ў горадзе **НЯСЬВІЖЫ аднавіла свае заняткі** пераходная Беларуска-Расейская 8-клясовая Жаноцкая Гімназія п. Жаўнаркевіча.

У I і II клясах лекцыі выкладаюцца ў беларускай мове, а ў III — VIII у расейскай.

Кіраўнік гімназіі **Счансновіч.**

**Вучыцялі й вучыцелькі!**

Працуючы ў вёсцы, Вы лёгка можаце сабрацьваколічныя беларускія народныя песьні і гэтым укладзеце новы скарб у наш друк, прыслаўшы сабранае ў „БЕЛАРУСКІ ЗВОН“.



Друкарня „Віленскага Выдавецтва“ Б. Клецкіна, М.-Сьцяпанаўская, 23.
Рэдактар-Выдавец ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ.